# ДА ЧЫТАЧОУ.

Сучасная беларуская мысль выліваецца на паперы у „Нашай Ніве“, календары і беларускіх кніжках.

З гэтых выданьняў кожнае мае сваю вядомую мэту і да гэтае мэты нагібаецца і яе істота.

Аднак усё больш і больш знаходзіцца між прабудзіўшыміся беларусамі такіх думак і твораў, которым для рожных прычын німа мейсца у сучасных выданьнях беларускіх, і шмат знаходзіцца такіх людзей, каторых сучасные выданьня беларускіе не здаволіваюць зусім. Вось дзеля тагото чуецца патрэба такога выданьня, дзе бы магла падзяліцца думкамі ўся Маладая Беларусь.

Такім выданьнем мы бы з ахвотаю віталі месячнік, ці адным словам часопіс.

Але сягоньня мы можэм пачаць толькі ад зборніка; хрысьцім яго — „*Маладая Беларусь*“.

„*Маладая Беларусь*“ будзе выхадзіць кнігамі у 160 стр. кніжкі будуць выхадзіць адна за аднэй, як толькі набярэцца матэр'ял.

Ідучы да сваей мэты, „*Маладая Беларусь*“ будзе мець:

1) Аддзел грамадзянскі, дзе будзем разбіраць неадложные для беларускаго грамадзянства справы;

2) Аддзел навучны з асаблівай увагай на навучнае пазнаньне Беларусі;



# DA ČYTAČOŬ

Sučasnaja bielaruskaja myśl wyliwajecca na papieru u «Našaj Niwie», kalendary i bielaruskich knižkach.

Z hetych wydańniaŭ kožnaje maje swaju wiadomuju metu i da hetaj mety nahibajecca i jaje istota.

Adnak usio bolš i bolš znachodzicca miž prabudziŭšymisia biełarusami takich dumak i tworaŭ, katorym dla rožnych pryčyn nima miejsca u sučasnych wydawiectwach bielaruskich, i šmat znahodzicca takich ludziej, katorych sučasnyje wydawiectwy bielaruskije nie zdawoliwajuć zusim. Woś dziela tahoto čujecca patreba takoha wydawiectwa, dzieby mahli znajści prypynak dasiul biazdomnyje twory i dzie by mahła padzielicca dumkami ŭsia Maładaja Biełaruś.

Takim wydańniem my by z achwotaju witali miesiačnik, ci adnym słowam časopis.

Ale siahońnia my možem pačać tolki ad zbornika; chryścim jaho:—«*Maładaja Biełaruś*».

«*Maładaja Biełaruś*» budzie wychadzić knihami u 160 str., knižki buduć wychadzić s pačatkam 1912 hodu adna za adnej, jak tolki nabiarecca materjał.

Idučy da swajej mety, «*Maładaja Biełaruś*» budzie mieć:

1) Addzieł hramadzianski, dzie budziem razbirać nieadłožnyje dla bielaruskaho hramadzianstwa sprawy.

3) Аддзел прыгожаго пісьменства і штукі.

Хаця ўсім была ясна даўно патрэба падобнаго выдавецтва—першы спытак (томік) пушчаем у сьвет не без трывогі. А крыніца гэтае трывогі вечна тая самая: калі толькі німа сіл выдаваць якой небудзь беларускай кнігі дваякімі літэрамі зразу — гэта значыць друкаваць тую самую кнігу два разы — заусёды з'яуляецца страх, што гэту кнігу прачытае толькі часьць беларусаў.

Ці доуга вісецьме над намі двойчы-літэрнае праклядьце — ніхто ня ведае цяпер. -- Адно толькі добра ведаем у вадно крэпка верым: сьведомаму беларусу ўсе літэры роўны — для яго важна не форма — а сама істота, не чым напісана, а што напісана. Аднак пры цяперашнім стане беларускаго руху, болі сьведомых беларусаў мы можэм палічыць сотнямі, а ўсіх беларусаў да дзевяці мільёнаў і мы ніколі ня можэм забыцца, што гэтые дзевяць (без некольніх соцен мільёнаў)—гэта цяпер матэр'ял, с каторагo ешчэ будуць сведомые беларусы. І вось уся найбліжшая мэта — патрапіць першы раз да сэрца несьведомаго беларуса, каб умацаваўшы ў ім сьведомые адносіны да нашай справы мець у ім беларуса-грамадзяніна. Адна з завад на дарозі шырэння такіх сьведомых паглядаў — гэта пагляд на беларускую справу не як на справу саму па сабе, а як на інтрыґу чужую ці то з Масквы, ці з Варшавы. І згодна з гэтым паглядам адные бачаць у лацінскіх літэрах інтрыґу варшаўскую, у рускіх – інтрыґу маскоўскую. Мы ад начатку нашаго трываньня ваевалі с такімі паглядамі не словам, але жывою работай: выдавалі, што магчыма, і такімі і сякімі літэрамі і гэтым паказывалі, што справа літэр для нас гэта справа не прынцыпіальная, але справа практычная.

Цяпер перад намі ляжыць пачатая новая работа—„*Маладая Беларусь*“. Жадаючы ей як найбольшаго развіцьця, як найбольшай лічбы чытачоў, а з другога боку не здалеўшы выдаваць яе зразу двума выданьнямі: рускім і лацінскім, мы пастанавілі выдаваць яе не аднымі толькі літэрамі, а зразу



2) Addziel nawučny z asabliwaj uwahaj na nawučnaje paznańnie Biełarusi.

3) Addziel pryhožaho piśmienstwa i štuki.

Chacia ŭsim była jasna daŭno patreba padobnaho wydawiectwa — pieršy sšytak (tomik) puščajem u swiet nie biez trywohi. A krynica hetaje trywohi wiečna taja samaja: kali tolki nima sił wydawać jakoj niebudź biełaruskaj knihi dwajakimi literami zrazu—heta značyć drukawać tuju samaju knihu dwa razy—zaŭsiody zjaulajecca strach, što hetu knihu pračytaje, tolki čaść biełarusaŭ.

Ci doŭha wisiećmie nad nami dwojčy-literпaje praklaćcie—nichto nia wiedaje ciapier.—Adno tolki dobra wiedajem, u wadno krepka wierym: swiedomamu biełarusu usie litery roŭny—dla jaho ważna nie forma—a sama istota, nie čym napisana, a što napisana. Adnak pry ciapierašnim stanie biełaruskaho ruchu, boli swiedomych biełarusaŭ my możem paličyć sotniami, a ŭsich biełarusaŭda da dziewiaci miljonaŭ—i my nikoli nia možem zabycca, što hetyje dziewiać (biez niekolkich socien) miljonaŭ—heta ciapier materjał, s katoraho ješče budué świedomyje biełarusy. I woś usia najbliżsaja meta—patrapić pieršy raz da serca nieświedomaho biełarusa, kab umacawaŭšy ŭ im swiedomyje adnosiny da našej pracy mieć u im biełarusa-hramadzianina. Adna z zawad na darozi šyrennia takich świedomych pahladaŭ—heta pahlad na biełaruskuju sprawu nie jak na sprawu samu pa sabie, a jak na intrygu čużuju, ci to z Waršawy, ci z Maskwy. I zhodna z hetym pahladam adnyje bačuć u łacinskich literach intrygu waršaŭskuju, u ruskich—intrygu maskoŭskuju. My ad pačatku našaho trywańnia wajewali s takimi pahladami nie słowam, ale żywoju rabotaj: wydawali, što mahčyma, i takimi i siakimi literami, i hetym pakazywali, što sprawa liter dla nas heta sprawa nie prynсypialnaja, ale sprawa praktyčnaja.

Ciapier pierad nami lažyć pačataja nowaja rabota

дваякімі. Гэта значыць — палавіна кожнаго сшытка будзе друкавацца аднымі літэрамі, другая палавіна другімі. Гэтым мы думаем ясна паказаць, што справа літэр—справа толькі формы, гэта справа малаважная, і гэтым думаем памагчы згодзе між прыхільнікамі рожных літэр.

Напасьледак выказываем надзею, што ўсе сьведомые беларусы аднясуцца прыхільна да нашае труднае працы, будуць выбачаць тые абмылкі, што заўсягды могуць быць пры пачатку усякай справы,—і памогуць нам сваімі сілами.

Беларуская выдавецкая суполка

**„Загляне сонцэ і ў нашэ ваконцэ“.**



«*Maładaja Biełaruś*», Żadajučy jej jak najbolšaho razwićcia, jak najbolšaj ličby čytačoŭ, a z druhoha boku nie zdaleŭšy wydawać jaje zrazu dwumia wydańniami: ruskim i łacinskim, my pastanawili wydawać jaje nie adnymi tolki literami, a zrazu dwajakimi. Heta značyć: pławina kožnaho sšytka budzie drukawacca adnymi literami, druhaja pławina druhimi. Hetym my dumajem jasna pakazać, što sprawa liter—sprawa maławażnaja, i hetym dumajem pamahčy zhodzie miż prychilnikami rożnych liter.

Napaśledak wykazywajem nadzieju, sto ŭsie świedomyje biełarusy adniasucca prychilna da našaje trudnaje pracy, budué wybačać tyje abmyłki, što zasiahdy mohuć być pry pačatku usiakaj sprawy,—i pamohuć nam swaimi siłami.

Biełaruskaja wydawieckaja supołka

**„Zahlanie sonce i ŭ naše wakonce“**

# На дарозі да новага жыцьця.

„Ад самаго пачатку цывілізаціі чэлавечэства ідзе к далейшаму прогрэссу праз народы“.
*Charles Gide.*

(с прамовы пры аткрыцьці II-га конгрэссу франц. коопэрат. у Ліоні у 1886 гаду).

I.

Жыцьцё—гэта вечнае змаганьне. У гэтым змаганьні, ў тэй вайне сусьветнай слабые—гінуць, моцные—перэважываюць. Што не мае даволі сіл да жыцьця—прападае.

У сьвеці расьлін і зьвяроў бачым цікавае з'яўленьне: сьмерць часовую, летаргічны сон. Перад прыходам зімы, каторая зніштажае ўсё кволае і слабое, расьліны і іншые жывые стварэньня заміраюць — бытцым хочуць ашукаць праўдзівую, вечную сьмерць, якую нясуць марозы і сьцюжа. Але с першымі вясеньнімі павевамі схаванае ў іх жыцьцё будзіцца нанова, каб праз летні час яны маглі спаўняць ізноў сваё назначэньне: умацовываць далей свой род, свой ґатунак, паддзержываць жыцьцё на зямлі.

Нешта падобнае бывае і з народамі. У безупыннай вайне перэмагаюць слабейшых. Калі ў іх нехват сілы, каб іскру жыцьця хоць таёмна перэхаваць у сабе,—яны гінуць вечнай сьмерцьцю; але часьцей іх сьмерць—гэта толькі сьмерць для вока, непраўдзівая: яна падобна на зімовую сьпячку у прыродзі. Здаецца, бытцым народ перэд навалай бед прыкінўўся

мёртвым зумысьля, каб, ашукаўшы сваіх ворагаў, перэхаваць лягчэй жывую и чыстую душу да лепшых часоў. А як настане дзень васкрэсеньня, з бязмерной сілай ідзе народ тварыць новае жыцьцё, нясучы ўсе скарбы нацыональнай душы ў дар чэлавечэству.

Гэта,—вялікая гістарычная праўда, і мінулае сталецьце дало асабліва многа прыкладаў васкрэсеньня цэлых народаў. Усе такіе факты крэпка ўмацовываюць і нашу веру ў поступ нацыональнаго адраджэньня беларускаго народу.

Мы называем беларускі нацыональны рух адраджэньнем, але можна гаварыць аб адраджэньні, ўваскрэсеньні толькі таго, што ўжо калісь нарадзілася, жыло і замёрла. У гісторыі беларусаў, як нації, мы, бачым усе тры гэтые момэнты.

Беларуская нація зложылася болей-меней у пачатку нашаго тысячалецьця. Яе стварылі, зліўшыся ў вадно колькі дужа блізкіх між сабой славянскіх племён—крывічы, радзімічы, дрэговічы і др., каторые належалі да группы заходне-рускіх племён. У часі між XII—XIV сталецьцямі беларусы — ці то з добрай, ці злой волі—згуртаваліся пад ўласьцю Літоўскаго гасударства і занялі ў ім па сваему ліку першае мейсцэ. Тады пачалася энэргічная работа над збудаваньнем сваёй цывілізаціі, і ў XIV, XV і XVI ст. беларуская цывілізація дайшла ўжо до такой вышыні развіцьця, што літвіны—-народ праве чужы славянам—прынялі яе цэлком. Беларуская мова ў тым часі зрабілася літературнай і урадовай мовай на ўсіх беларуска-літоўскіх землях, аб чым сьведчаць нялічэные пісаные і друкаваные памятнікі — судовые дакументы, урадовые бумагі, пісьмы, кнігі духоўные і навуковые, законы і т. д. Між памятнікамі даўнейшаго беларускаго пісьменства асабліву увагу звертае на сябе зборнік законаў Вялікаго Княжства Літоўскаго—«Літоўскі Статут», перш пісаны, а пасьля двойчы друкаваны па беларуску. Гэта — найлепшы сьведка высокаго культурнаго развіцьця тагочаснаго беларускаго грамадзянства: ад яго літвіны ўзялі нават юрыдычные нормы. Але далейшае



соціально-політычнае жыцьцё Беларуска-Літоўскаго гасударства пайшло такой дарогай, што з XVII сталецьцем надыходзіць канец панаваньню беларускае мовы ня толькі на чыста літоўскай зямлі, але і на шчыра беларускай. Ужо ад Люблінскай Уніі ў Літве пачынае шырыцца польская мова, а з ёю—польская цывілізація. К канцу XVII ст. беларускіе вышэйшые станы блізка зусім апалячываюцца, і ў 1696 гаду беларуска-літоўская шляхта на Сэймі ў Варшаві пастанаўляе зьмяніць закон, па катораму «пісар земскі маець па руску*) літэрамі і словы рускімі ўсі лісты, выпісы і позвы пісаці, а не іншым языком і словы»; заместа беларускае — урадовай мовай прызнана польская мова. Губляючы гэтак асобные станы—шляхту, а за ёю памалу і мешчанства, беларусы, як суцэльная діффэрэнціірованая нація, гінуць. Беларускім астаецца толькі «просты» народ—селяне.

Але і гэты апошні стан, каторы не перэстаў быць беларускім, с таго часу быцтым заснуў — задзержаўся у сваім далейшым развіцьці: пры тагочасным соціальным і экономічным палажэньні беларускай народнай массы, пры паднявольным жыцьці на культурнае развіцьце яе мейсца не аставалася. Больш двухсот лет трываў такі сон. Пакінутая і забытая інтэлігентамі беларуская вёска жыла толькі тым, што асталося ёй у спадчыне ад даўнейшаго ўсенароднаго культурнаго багацьця. Ад вышэйшых, культурных станаў стравы для душы яна не даставала. Нават родные сыны яе, зрабіўшыся інтэлігентамі, ці—часьцей—поўінтэлігентамі, зразу станавіліся адны—палякамі, другіе—пачынаючы з XIX сталецьця—расейцамі, ды пры гэтым прыймалі чужую мову, працавалі (а і цяпер гэтак вядзецца) дзеля павялічэньня культурнаго багацьця не свайго народу, а польскаго, або расейскаго. У роднай

*) «Па руску», «рускі»—значыць па беларуску, беларускі. Рускімі называлі дауней жыцелёу Заходняй Русі — беларусау і і украінцау, а цяперашніх расейцау, або велікарусау тады называлі маскоускімі людзьмі, іх мову—маскоускай.

вёсцы яны—чужые: між імі і іх сермяжнымі братамі вырасла бытцым высокая каменная сьцена. Але мінулае самабытнае жыцьцё беларусаў не прайшло бяз сьледу, нацыянальная душа іх не дарма гартавалася сталецьцямі: яна, ня гледзячы ні на што, не замёрла зусім, і народ перэхаваў яе жывой да нашых дзён разам з роднай мовай, з усімі нацыянальнымі асаблівасьцямі.

Хто добра ўдумаецца ў тое, што кажэ нам гісторыя, хто ўслухаецца ў біцьцё сэрца народнаго, той убачыць, што нават і ў двухсотлетнім летаргічным сьне беларускі народ даваў знакі жыцьця. Ніякая дэнацыяналізацыя не магла зусім забіць нацыянальнай душы нават у апалячэнай, ці абрусеўшай інтэлігенцыі. Вытворэная сталецьцямі індывідуальнасць беларускаго народу выяўлялася ў тым, што беларусы, каторых захапіла польская, або расейская цывілізацыя, ўносілі свае нацыянальные асаблівасьці ў культурную скарбніцу палякаў і расейцаў і гэтак кіравалі ў той, або іншы бок далейшае развіцьце культуры абодвых названых народаў, хаця іх цывілізацыя стаіць куды вышэй за сучасную цывілізацыю беларусаў. Гэтак ведама ўсім, якое вялікае значэньне мелі ў сваім часе творы Адама Міцкевіча для формованьня польскай нацыянальнай душы; а Міцкевіч, каторы выйшоў з апалячэнай беларускай шляхоцкай сямьі, каторы радзіўся і ўзрос на Беларускай зямлі, быў усей сваёй псыхікай неразрыўна звязаны з ёю і з народам беларускім і адбіваў у сабе самым беларускую нацыянальную душу. Такіх імён было і ёсць багата, і німа ў гэтым ніякаго дзіва: беларусы, працуючы пры будоўлі польскай культуры, хаця і несьвядома, **павінны** былі ўнасіць у яе свае нацыянальные зачаткі. Ня будзем даказываць, што і абрусеўшые беларусы сур'ёзна прылажылі сваю руку да вызначэньня дарогі, па якой пайшло развіцьце расейскай культуры: прызнаюцца да гэтаго самі расейцы, а проф. Овсяніко-Куліковскій аткрыта кажэ, бытцым праца беларусаў і украінцаў пры будаваньні расейскай культуры была чуць-што ня роўная працы велікарусаў (гл. кніжку яго: „Н. В. Гоголь". Изд. „Вѣстн. Восп." 1903 г.).



Калі такім парадкам беларусы і ў часі свайго сну, не маючы патрэбных варункаў для развіцьця, як асобная нацыя, усё-ж такі здалелі налажыць сваё кляймо на характэр культуры двух блізкіх, але шмат дужэйшых за іх народаў, дык ня можэ быць споркі аб тое, што беларускі народ мае ў сабе вялікі запас жыцьцёвай сілы. Гісторычная мінуўшчына і гэта жыцьцёвая сіла—вось фундамэнт, на якім будуецца новае жыцьцё беларусаў. На гэтым фундамэнці апіраем і мы сваю веру ў беларускае нацыянальнае адраджэньне.

---

## II.

Калі беларусы пагублялі свае інтэлігентные станы, „простаму" народу — селянству, каторае адно толькі захавала ў чыстаце сваю нацыянальную душу беларускую, жылося дужа цяжка. Беларускае селянства стала далёкім і чужым для інтэлігенцыі, каторая дзержалася іншай, чым народ, веры, іншай мовы і, складаючыся найбольш с шляхты, стаяла ў політычным і соцыяльным значэньні так высока на паднявольным **дэмосам**, што таго дэмоса і не бачыла. Ня гледзячы на тое, што палякі ў тых часах былі ўсесільнымі гаспадарамі ў нашай старане, бо дзержалі ў руках гасударственную ўласць, нікому і ў галаву не прыхадзіло займацца **сьведомым пляновым** апалячываньнем беларускаго селянства: аб ім быццым забыліся. Дый само паняцьце нацыянальнасьці і дэнацыяналізацыі — гэта твор больш новых часаў. — Затое, калі з Заходняй Эўропы ў канцы XVIII ст. пачалі залетаць і да нас дэмократычные думкі, калі у Францыі ішло змаганьне за роўнасьць, брацтва і свабоду, нашы вышэйшые станы не маглі не звярнуць вачэй на народ. Хрэптовічы, Бжостоўскіе, Монюшкі і другіе лепшые людзі даюць селянам волю; маршалак Завіша ў 1818 г. на сходзі шляхты кажэ аб патрэбі скасаваць прыгон на векі вечные, за што Віленскаму губэрнатору і яму

самому с Пецярбурга шлюць вострые наказы. Развіваецца школьная справа. Хаця навукі скрозь вядуцца ў польскай мові, але ўжо бачым і пробы пісаць і гаварыць да народу па беларуску. Апошніе гады жыцьця Віленскаго унівэрсытэту далі багата дэмократычна настроенай моладзі. І вось Чэчот, Баршчэўскі. Рыпінскі і др. пішуць і друкуюць беларускіе поэтычные творы, каторые ідуць у народ. Хто цікавы бліжэй пазнаёміцца с тым, што друкавалася за ўвесь XIX век, таго атсылаем да невялічкай, але дужа цэннай кніжкі Р. Земкевіча: „Беларуская бібліоґрафія XIX ст.“ (Вільня, 1912 г.), гдзе можна знайсьці даволі поўны спісак друкаў таго часу; але ўжо у прадмові сам аўтор кажэ, што ўсё гэта—толькі малая частка таго, што за той час пісалася і ў рукапісах гуляла між народам, або перэказывалася славамі ад аднаго к другому.—Поруч з дэмократычнымі рухамі заґраніцай і у нас крапчэюць дэмократычные тэндэнціі, а разам з гэтым паяўляюцца новые беларускіе творы, як той верш Сырокомлі, каторы навеялі паэту весткі аб рэволюціі 1848 г.—Даем тутака начатак:

Заходзіць сонцэ пагодняго лета,
Веіць вецер з заходніх нябёс;
Здароў будзь, вецер! з далёкаго сьвета
Добрые ж весьци ты да насъ прынесъ.
Здаровые ж будзьце, эй добрые весьці!
Там на Заходзе праліваюць кроў,
Б'юцца для славы, свабоды и чэсьци
І робяць вольных людзей з мужыкоў...
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Хаця ўсе польскіе паўстаньня ў нашым краю накладалі на тутэйшае жыцьцё польскае кляймо, пад каторым у народу ўсё-ж такі не перэставала біцца беларускае сэрцэ, але трэба прызнацца, што яны мелі—апрача національных тэндэнцый—і дэмократычные зачаткі: і вось у 1863 гаду паўстанцы звертаюцца да селян і выпускаюць проклямаціі па беларуску. Так с паняцьцем дэмократызму лучылося у нас і прызнаньне правоў беларускай мовы, лучыліся пробы беларускаго пісь-





менства. Але ў апошнім паўстаньні ўсе болей дэмократычные, жывые элементы або згінулі, або былі выдалены с краю; палякі, каторые асталіся на мейсцу, як пасеі на сіце Муравьёва, гэта прэдстаўнікі крайняго консэрватызму, эґоісты, ворагі ня толькі національных парываў, але і ўселякаго дэмократызму; поруч з гэтым бачым перарыў і ў працы мейсцовых інтэліґентаў дзеля развіцьця беларускаго пісьменства і гэты перарыў трываў да 80-ых гадоў, тым болей, што с 1866 году ў Расеі было забаронена друкаваць беларускіе кніжкі. Польская, або, справядлівей, апалячэная краёвая інтэліґенція ад часу паўстаньня зрабіла круты паварот: яна ўсе свае сілы аддае ўжо толькі „польскай справе“, разумеючы пад гэтымі славамі апалячываньне беларусаў.

У палажэньні беларусаў аґульна кажучы зрабілася вялікая перамена у другой палавіне XIX сталецьця, калі урад (правіцельство) пачаў сыстэматычную кампанію проці польскаго элемэнту ў так-званым «Поўночна-Заходнім» краю. Урад пастанавіў зніштожыць тутака ўсё польскае, абвесьціўшы, што Беларусь гэта „ісконі-русскій“ край, каторы, бытцым, нічым ня розніцца ад Вялікарускіх губэрній; а як тутака вельмі часта католіцтва змешывалі і змешываюць дагэтуль с польшчынай, дык усе рэпрэссіі, якіе назначаліся для палякоў, кляліся ўсім сваім ціжарам і на беларусаў-каталікоў. Апрача таго, раз было прызнана, што праваслаўны беларус нічым ня розніцца ад велікарусса,—пачаліся рэпрэссіі і спэціальна проці беларусаў, пачынаючы ад забароны друку.—У тым жэ самым часі палякі, спалохаўшыся, што ім скора зусім жыцьця не стане на зямлі Беларускай, энэргічна ўзяліся за сьведомае ўжо і пляновае апалячываньне беларусаў, думаючы, што, павялічываючы лік „польскаго“ населеньня краю коштам беларусаў, яны здалеюць вернуць страты, каторые рабіла і робіць палітыка ураду.—І вось для беларускай національнай справы наступае бадай-што найгоршы час: беларусы папалі бытцым пад крыжавы агонь двух ваюючых

армій — палякаў і расейцаў, ці, справядлівей, польскаго і расейскаго націоналізмаў.

Работа расейцаў над дэнаціоналізацией беларусаў апіраецца па абрусіцельнай ваеннай службе, праваслаўнай цэркві, школе, на цэлым адміністраціўным аппараце с тысячамі чыноўнікаў, прысланых з глыбіні Расеі, на перэсяленьні ў Беларускі край велікарускіх селян-староверау і т. д. Такіх-жэ самых спосабаў дзеля апалячэньня краю ужываюць і палякі: ў іх руках каталіцкі касьцёл; яны заводзяць прыватные польскіе школы, за каторые, як можна судзіць з газэтных вестак, па судох адбываюцца дзесяткі процэссаў; у грамадзянскіе і прыватные інстытуціі, якіе знаходзяцца пад загадам палякаў, прыймаюцца скрозь толькі палякі, і нават національно сьведомые беларусы каталіцкай веры зусім не маюць туды доступу; ўрэшці, між польскімі памешчыкамі ў апошніе гады бачым тэндэнцію выпісываць польскіх селян, мазураў на работы ў полі, а поруч і дзеля колонізаціі Беларусі. Адным словам, і полёнізація і абрусеньне вядуцца ўжо павэдлуг сыстэмы, якую вытварыў канец мінулаго сталецьця і пачатак гэтаго.

Канец XIX сталецьця прынёс, аднак, для беларусаў не адно толькі благое. Як удар молата па кавадле спатыкае роўнай сілы атпор, так і дэнаціоналізаторская работа у Беларусі збудзіла ў лепшых сэрцах жаданьне бараніць пакрыўджэны жыцьцём народ, працаваць дзеля падняцьця с тагочаснаго стану беларускую вясковую беднату, шануючы національную душу беларуса, яго мову і т. д. І ў тым жэ часі, калі ў расейскім грамадзянстве ўсё болей бяруць верх дэмократычные думкі, у Беларусі, быццым адгалосак таго, што рабілася ў Расеі, закладаюцца кружкі вучашчэйся моладзі, узгадаванай як польскай, так і расейскай культурай, которые выдаюць беларускіе кніжкі; родзіцца дужа радыкальная беларуская газэціна „Гоман“ (выходзіць нелегальна ў Мінску, друкаваная на гектографе) і т. д. Гэта—80-ые і 90-ые гады. А поруч з гэтым развіваецца і прыносіць багаты ураджай



поэтычнае творчэство Мацея Бурачка (Ф. Богушэвіча), у псыхіпэ каторага стары польскі дэмократызм з эпохі да 63-го году зліваецца з расейскім народнічэствам, і на гэтым грунце вырастае ўжо сьведомасць грамадзянскіх павіннасцей перад народам-хлебаробам, любоў да яго, пашана яго національнай індывідуальнасьці. Бурачок першы кінуў зычны, моцны кліч: „не кідайце мовы вашай беларускай, каб ня умёрлі!“ ён прыбраў у простые, але моцные словы тую думку, якая і дагэтуль не губляе для нас свайго значэньня.

Пераломм, пераход—гэтак можна назваць канец XIX—пачатак XX сталецьця. Національная сьведомасць у лепшых сыноў Беларусі прабудзілася; „просты“ народ чутка прыслухіваецца да кожнаго слова, якое нясе яму кніжка, брошура, верш у роднай мове, але йшчэ свайго голасу не дае. Любоў да ўсяго роднаго не замёрла і нават узрастае. Але ўсё гэта шчэ не дайшло да народнай сьведомасьці, і народ маўчыць. Голэс з яго грудзей вырваў 1904--5 год.

---

## III.

Національнай сьведомасьці нельга аддзяліць ад сьведомасьці грамадзянскай і агульна-людзкой: яны звязаны між сабой неразрыўна, і, губляючы адну, чэлавек губляе і другую. Гэта дужа ясна выявілася у беларусаў.

Національная беларуская работа да 1904 году пачыналася і канчалася тым, што народу тлумачылі цэннасць і значэньне яго „простай“ мовы і таго культурнаго багацьця, якое народ сам прыдбаў сабе сталецьцямі,—вучылі шанаваць усё роднае, сваё, чым беларусы адзначываліся паміж іншых націй. „Наша бацькава спрадвечная мова,—пішэ Мацей Бурачок,—каторую мы самі, да і не адны мы, а ўсе людзі цёмные мужыцкай завуць, а завецца яна Беларускай... ёсць такая-ж людзкая і панская, як і француская, альба нямецкая,

альба і іншая якая. Яно добра, а нават і трэба знаць суседзкую мову, але найперш трэба знаць сваю“... Такіе словы былі навіной для народу: ад усіх інтэліґентаў, з якімі беларусу даводзілася спатыкацца—паноў і чыноўнікаў, ён бачыў дагэтуль адну толькі пагарду да яго мовы, чуў здзекі над ёю, дык і сам пачаў сароміцца ўсяго беларускаго, пачаў губляць ня толькі сваю національную сьведомасць, але і сьведомасць асабістай вартасьці, пачуцьце чэлавечай і грамадзянскай гордасьці; толькі адрокшыся ад таго, што аддзеляла яго ад пана-паляка і чыноўніка-расейца, маніўся паднящца на ступень ч э л а в е к а, роўнаго другім. Беларуская кніжка, жывое слова—верш у роднай мове—мела тое значэньне што сеяла ў душы беларусаў пакуль-што неяснае пачуцьцё, штоткі ня ўсё тое „мужыцкае“, „простае“, на што і сам ён скрыва паглядаў, такое ўжо паганае, нікчэмнае, брыдкае, калі людзі кніжкі друкуюць беларускай гутаркай. Так прыгатаўляўся грунт для ідэй аб правох чэлавека і грамадзяніна, пасеяных рэволюцыйным рухам у Расеі. Калі-ж рэволюція, хаця толькі на адзін момэнт, паставіла мужыка нараўне з усімі людзьмі, калі да беларуса загукалі скрозь голасна і публічна аб яго патрэбах, аб долі-нядолі ў роднай мові, калі ў народзі паднялі вольны дух,—у беларусаў зразу збудзілася пачуцьцё національнай гордасьці, збудзілася національная сьведомасць.

Варункі, пры якіх беларусы національна прабудзіліся, назначылі наперад дарогу, па каторай павінна было пайсьці далейшае національнае адраджэньне беларускаго народу. Дарога гэта—спакойная творчая праца над стварэньнем сваей національнай культуры на чыста дэмократычным фундамэнці,—значыць без найменшых знакаў національнаго шовінізму і ненавісьці да чужых націй. З гэтай дарогі да сягоньняшняго дня беларускі національны рух не зышоў ні на адзін крок.

Національные думкі, каторые паяўляліся ў галаве беларускаго селяніна і поўінтэліґента ад гарачых мітынґовых прамоў, хапаўшых за сэрцэ, ад яркіх, пекных фраз беларускіх



рэволюцыйных лісткоў, былі сперша дужа неясные, туманные і прымушалі ўсіх больш жывых людзей шукаць для іх моцнаго, цьвёрдаго фундамэнту. Лісткі, каторые сотнямі тысяч шырыла Беларуская Соціалістычная Грамада, уселякіе капеечные брошуры не маглі ўжо служыць духоўнай стравай для тых, у каго прабудзілася національная сьведомасць. І вось у 1906 гаду бачым дзьве пробы даць беларусам сур'ёзную національную страву: у Пецярбурзе аткрылася беларускае выдавецкае таварыства „Загляне сонцэ і ў нашэ ваконцэ“, каторае зразу пачало друкаваць лепшые творы беларускіх пісьменнікаў; у Вільні пачала выхадзіць беларуская народная газэта „Наша Доля“. Хаця газэта выходзіла нядоўга—каля двух месяцаў—і с прычыны заусёдных конфіскацій за рэволюцыйны кірунак (с 6 выпушчэных нумэраў конфіскована 5) закрылася, усё-ж такі яна здалела зрабіць шмат: ужо самы той факт, што нарадзілася беларуская прэсса, дужа заахвоціў людзей да рэальнай працы дзеля національнай справы, паказаўшы ім, што такая работа—ня выдумка, а мае пад сабой цьвёрды ґрунт і патрэбна народу. Дзень выхаду ў сьвет „Нашай Долі“—гэта першае беларускае національнае сьвята!

1906 год, каторым у нас закончыўся час агульнай завірухі, быў для беларусаў у національным значэньні дужа важны. У гэтым гаду беларуская вясковая і мястэчковая народная інтэліґенція (справядлівей—поўінтэлігенція) пачынае болей-меней акуратна організавацца. Гэтак закладаецца хаўрус беларускіх народных вучыцелёў *), каторые набіраюцца у Беларусі найбольш с селянскіх сыноў, эдукаваных у расейскім „національным“ духу: пачынаецца рух і ў вучыцельскіх сэмінарыях, інстытутах, і вучні чатырох сэмінарый робяць свой хаўрус пад беларускім національным штандарам, каторы скора адміністрація разбівае. Якую вялікую вагу мелі гэтые факты, німа патрэбы доўга тлумачыць; даволі сказаць, што немалая

*) Адну з групп яго аткрыла паліція, і суд у Мінску прыгаварыў да суровых кар усіх членаў яе.

частка вучыцелёў—найбольш маладых, энэргічных і інтэліґентных, каторые павінны былі заняцца „абрусеньнем“ нашай старонкі, заместа гэтаго пачала шырыць у народзі беларускіе національные думкі. Поруч з гэтым бачым зачаткі руху і ў духоўных сэмінарыях, асабліве праваслаўных. Усё гэта робіцца сілай таго разгону, які даў агульны пад'ём у грамадзянстве за 1904—5 гады. Але с пачаткам рэакціі агульны разгон слабее. У людзей апускаюца рукі, слабее вера у шчасьлівы канец пачатай работы, прападае энтузьязм, каторы быў пры ў з р ы в е національнай сьведомасьці.

Ня гледзячы на агульны упадак энэргіі і ахвоты да грамадянскай працы, неколькі больш вытрывалых і цьвёрдых людзей, веручы, што йшчэ ня ўсё прапало для культурно-національнай работы, калі можна друкаваць беларускіе кніжкі і газэты, пачалі выдаваць у Вільні новую газэту ў беларускай мові, назваўшы яе „Наша Ніва“. Пачынаючы с канца 1906 году, газэта выходзіць і цяпер.

Мэтай сваей „Наша Ніва“ назначыла: працаваць дзеля культурнаго і экономічнаго падняцьця Беларусскаго краю і народу, развіваць у беларусаў національную сьведомасць, будзіць пачуцьце грамадзянскай і чэлавечай гордасьці і, крэпка злучыўшы увадно раздзеленые рэлігіей дзьве часьці беларусаў—католікоў і праваслаўных, развіваць національную душу беларускаго народу. Патрэба газэты, ў каторай і народ мог бы падаваць свой голас, была ўжо дужа вялікая, і „Наша Ніва“ зразу пайшла ў народ і д а й ш л а да яго. Пад той час ужо ішла сур'ёзная праца ў галавах больш жывых і развітых селян: у душы беларуса,—каторы, жывучы гэтулькі часу паднявольным жыцьцём, прывык ужо глядзець на сябе самога, як на нейкае ніжэйшае стварэньне,—цяпер усё болей і болей расьце сьведомасць, што і астаючыся б е л а р у с а м ён не перэстаў і не перэстане быць ч э л а в е к а м, як усе. Кніжка, газэта ў роднай мові—гэта ўжо не забава, а канечная патрэба. Ён сам пачаў голасна выказываць свае думкі „простымі“ словамі—ад сэрца, пачаў выкладаць іх на палеру. І вось мала-па-малу „Наша Ніва“ становіцца бытцым люстрам, у каторым адбіваецца ўсё крапчэйшы беларускі національны рух. С самых далёкіх і глухіх канцоў Беларусі, куды толькі дайшла газэта ці вестка аб ёй, паплылі ў Рэдакцію пісьмы і корэспондэнціі, пісаные мазалістай рукой хлебароба, мястэчковаго рэмесьніка, часам народнаго вучыцеля і т. д. Як палічыла і апублікавала сама Рэдакція, за першые тры гады жыцьця „Нашае Нівы“ у ёй было надрукована 960 орыгінальных корэспондэнцій с 489 беларускіх вёсак і мястэчак, а за чацьвёрты год—660 корэспондэнцій з 321 мейсца. А трэба адзначыць, што ні за корэспондэнціі, ні за выдаткі на іх перасылку у Рэдакцію корэспондэнты—главным чынам селяне—не дастаюць ні капейкі. Газету яны лічаць с в а ё й. І гэта праўда: стаўшы голасам не аднэй толькі Рэдакціі, а ўсяго болей-меней сьведомага і думаючага „простага“ народу, „Наша Ніва“ зрабілася ўласнасьцю беларускага грамадзянства.



З найдаўнейшых часоў беларус выказываў свае душэўные перэжываньня, горэ і радасьць, надзеі і жаданьня найболей у песьнях, каторых народ наш перэхаваў дагэтуль вельмі многа. Гэткая склоннасьць ёсць у яго і цяпер: лік народных паэтаў дужа вялікі; ў „Нашай Ніве“ спатыкаем больш 60 розных імён, а між імі асобнае мейсцэ займаюць такіе праўдзівые таленты, як Янка Купала, Якуб Колас і другіе. Трэба адзначыць, што ўсе паэты, каторых творы друкаваліся і друкуюцца ў „Нашай Ніве“, гэта—сыны народу, і найвялікшы інтэлігент між імі—народны вучыцель; аднаго толькі Максіма Богдановіча трэба з гэтаго ліку выключыць: хаця і ён—сын народу, бо бацька яго радзіўся ў селянскай хаці, але-ж гэта ўжо інтэлігент у шырокім значэньні слова.—І художэственая, красная проза мае немала працаўнікоў: каля чатырох дзесяткаў аўтораў друкуе свае творы ў едзінай пакуль-што беларускай народнай газэці.

Поруч з выдавецтвам „Наша Ніва“ і пецярбурскай Су-

полкай „Загляне сонцэ і ў нашэ ваконцэ“ над павялічэньнем беларускага кніжнага багацьця працуюць ешчэ: ў Мінску— суполка „Мінчук“, у Вільні—„Наша Хата“ і выдавецтва „Полачанін“ і „А. Грыневіч“. За пяць гадоў яны разам надрукавалі каля 200.000 экзэмляраў кніжэк усякаго ґатунку: ёсць тут і літэратурные творы, і школьные кніжкі, і практычные, і гаспадарскіе, а нават і гісторычные. Як мы палічылі, ў год ідзе да народў каля 25.000 экзэмпляроў уселякіх выданьнёў. Дзе-не-дзе закладаюцца беларускіе бібліотэчкі, школы з навукай па беларуску (неоффіціальные). Аткрыўся нават і вучыцельскі журнал (у расейскай мове)—„Бѣлорусскій Учитель“, але на другім нумэры скончыў сваё жыцьцё.

У 1910 і 1911 гаду беларускі національны рух далей разрастаецца і ў шыр, і ў глыбь. Гэтые гады прынясьлі с сабой нараджэньне беларускага народнага тэатру, народных хораў. У Вільні, Гродні, Слуцку, Капылі, Полацку, Дзісне, Давід-Гарадку, Пецярбурзі, Варшаві і т. д. пазакладаліся драматычные гурткі і хоры, каторые робяць публічные вечарынкі, ставяць п'есы ў беларускай мове, пяюць народные песьні, скачуць танцы беларускіе. У тым жэ часі бачым зачаткі беларускай драматычнай літэратуры—орыгінальнай і перэкладзенай с чужых моў. Збіраюцца, апрацовываюцца і выдаюцца песьні беларускаго народу, а іх мотывы служаць тэмамі для вялікіх музыкальных твораў пакуль-што йшчэ чужых композытораў.

У апошнім, 1911 гаду справа тэатру становіцца ўжо на мацнейшы ґрунт. З вясны ў Вільні аткрыўся беларускі клюб пад названьнем „Беларускі Музыкально-Драматычны Кружок“, каторы і працуе над развіцьцем беларускаго тэатру, песьні, музыкі, танцу. Поруч з гэтым залажыўся аб'ездны тэатр пад загадам Ігната Буйніцкаго, каторы ў летку аб'ехаў каля 15 мястэчак у Віленскай, Мінскай і Вітэбскай губэрні, падымаючы скрозь беларускі дух, будзячы національную сьведомасьць.

Мы многа тутака сказалі аб рабоці над развіцьцем національнай душы беларусаў, але на гэтым не канчаецца праца, якая робіцца самым народам і для народу. Гэтак ідзе йшчэ работа і на экономічным ґрунце: заводзяцца ўселякіе коопэраціі, аткрываюцца хаўрусные крамы, крэдытные таварыствы і банчкі, сельска-гаспадарскіе кружкі, організуюцца селянскіе выстаўкі, закладаюцца паказные хутары і т. д. Ёсць да гэтаго багата ахвочых людзей і ахвочых рук, але, на вялікі жаль, вясьці сыстэматычную экономічную работу дужа цяжка с прычыны розных адміністраціўных пастанаўленьній і агранічэньній... А ґрунт да такой працы дужа добры і ўжо даўно чэкае працаўнікоў.



## IV.

Калі беларускі національны рух толькі пачынаўся, гэта быў рух чыста селянскі: васьмімільённая мужыцкая грамада першы раз падала свой голас, пачала сама гаварыць аб сабе і аб сваіх справах, выказываючы свае думкі так, як было найлягчэй—у роднай беларускай мове. За беларусаў лішне ўжо доўга гаварылі другіе: або зусім чужые людзі, або тые сыны беларускай вёскі, каторые „выйшлі ў людзі“ і на сваіх сермяжных братоў глядзелі з верху. Ведама, ні адны ні другіе не маглі перэказаць таго, што думае і чаго хочэ народ: яны або ніколі не зналі беларускага селянства, як ніжэйшаго, „простага“ стану, або так ад яго далёка адыйшліся, што перэсталі разумець людзей, між каторымі узрасталі змалку. Затое ўсе шчырые дэмократы ґорача віталі прабуджэньне вёскі і сталі працаваць над тым, каб ёй лягчэй было выказываць усё, што праз доўгіе гады было зачынена ў галавах селянства цемнатой і безпраўным палажэньнем. Пачалася работа над развіцьцем „простай“ мовы, каб беларус мог гаварыць аб усім па беларуску: гэта—найлепшы спосаб выказываць свае думкі.

Простые, шчырые словы народу маюць у сабе такую сілу,

што прамаўляюць да душы і сэрца кожнаго, хто не загубіў здольнасьці разумець чужы боль і горэ, чужую душу. І вось загнаная, абкіданая пагардай і асьмеяная родная мова разам зрабілася дарагой і мілай сэрцу ня толькі селяніну-землеробу, але і яго сыну інтэліґенту. На нашых вачах родзіцца беларуская інтэліґенція: беларус, которы зразумеў, хто ён такі, калі йшчэ хадзіў у сермязе, ужо ня можэ перэстаць быць беларусам, хаця сермягу замяніў на сурдут, ці мундзір. Спачатку зусім малая жменя національно-сьведомых інтэліґентаў-беларусаў расьце і здабывае памаленьку сілу.

Добры прыклад тутака дае вучашчаяся моладзь. Між вучашчыміся ў вышэйшых, а нават і сярэдніх школах жаданьне прылажыць і сваю руку да національнай работы шырыцца ўсё болей і болей. Німа, бадай, унівэрсытэцкага гораду, дзе не было бы беларускага кружка, хаўруса. Павэдлуг сваей ідэолёгіі большая частка гэтакіх кружкоў стаіць дужа блізка да ідэолёгіі „Нашае Нівы"; яны ставяць сваей мэтай працу дзеля народнай прасьветы ў роднай мове, — пішуць і памагаюць выдаваць беларускіе кніжкі, займаюцца беларускай літэратурай і пісьменствам, працуюць дзеля навуковага пазнаньня свайго краю і гэтак падгатаўляюць ґрунт для будучых беларускіх навуковых інстытуцій, у тым ліку для музэя, для катораго розные прыватные асобы ўжо сабралі багата матэр'ялаў. Між унівэрсытэцкімі гарадамі ў беларускай національнай працы першае мейсцэ займае Пецярбург, куды едуць лепшые сілы беларускай моладзі.

Не кажучы многа аб національна-сьведомых інтэліґентах — асобах свабодных профэсій і т. д., бо іх ешчэ надта мала, мы звернемся да духавенства, каторае ў беларускай вёсцы мае дужа вялікую вагу.

Трэба сказаць, што праваслаўных сьвяшчэннікаў так крэпка дзержаць у сваіх руках вышэйшые духоўные ўласьці, такую сілу мае над імі сьвецкая адміністрація і правые організаціі, што нават тые, каторые шчыра спагадаюць беларускай справе,



баяцца паказаць гэта чым-небудзь рэальна. Дый прыток маладых сьвяшчэннікаў, у каторых національная сьведомасць прабудзілася йшчэ ў сэмінарыі, апошнімі гадамі неяк затрымаўся: ўсе болей сьведомые, болей жывые і энэргічные вучні, скончыўшы сэмінарыю, ня хочуць ісьці у сьвяшчэннікі, а едуць у унівэрсытэты. Ня гледзячы на ўсё гэта, чорнасоценцы на Кіеўскім з'ездзі ў 1909 гаду зусім сур'ёзна падыймалі праект, каб усіх сьвяшчэннікаў с „тутэйшых" людзей перэвадзіць з Беларусі ў центральные губэрні, а на іх мейсцэ прысылаць сьвяшчэннікаў-велікаросаў, бо мейсцовые не надта энэрґічна працуюць дзеля „абрусеньня" краю!

Лепей стаіць справа с каталіцкім духавенствам. Ці тут літоўскіе ксяндзы даюць добры прыклад, ці каталіцкіе духоўные ўласьці умеюць глядзець упярод—у будучыну—далей за праваслаўных, трудна напэўна сказаць. Адно толькі бачым: між маладымі ксендзамі (асабліва йшчэ вучашчыміся), каторые выйшлі з вёскі і не адарваліся ад яе зусім, трапляецца ўсё болей і болей сьведомых беларускіх патрыотаў. Дзе-не-дзе—часта пад страхам свайго бліжэйшаго начальства—яны ужо пачалі ў касьцёлі гаварыць казаньня па беларуску, выдаюць катэхізмы і рэлігійные кніжкі ў беларускай мові і т. д. Усё гэта—ксяндзы-народнікі, людзі, каторые скрозь свае рэлігійные справы і ідэі умеюць бачыць жывы народ; гэта—ксяндзы-грамадзяне свайго краю. Але поруч з імі ў каталіцкім духавенстве ёсць ешчэ другі кірунак: прэдстаўнікі яго, пачынаючы ад быўшаго Віленскаго біскупа барона Роопа, глядзяць на беларускую мову толькі як на спосаб дзеля шырэньня ў народзі сваіх думак. Такіх дальназоркіх палітыкоў, аднак, мала: на Беларусі перэважываюць дагэтуль ксяндзы-палякі, і польскі націоналізм іх не дапускае нават думкі, каб, працуючы для каталіцызму, духавенство карысталася беларускай мовай, паддзержываючы такім спосабам несымпатычны для палякаў беларускі національны рух.

Кажучы аб праяўленьнях національнай сьведомасьці у бе-

ларускай інтэлігенціі, мы ня можэм не ўспамянуць аб тых кірунках і группах людзей—часта чыстакроўных беларусаў, каторые, прыняўшы цэлком расейскую культуру, стараюцца ўсімі сіламі, як заўсягды гета робяць рэнэґаты, запыніць развіцьце таго, ад чаго атшчапіліся: беларускай нацыональнай культуры. Гэтые людзі гуртуюцца каля двух газэт: чорнасоценнага, лістка „Крестьянинъ", каторы у краёвых справах заўсягды выступае самозванна ад імяні беларускіх селян і народных вучыцелёў, і штодзеннага органа расейскіх націоналістаў—„Бѣлорусская Жизнь", перахрысьціўшагася нідаўна ў „Сѣверо-Западную Жизнь". Абедзьве газэты, разумеецца, выходзяць па расейску (у Вільні).

Асаблівую увагу звернем на „Сѣверо-Западную Жизнь". Яна—адно колка ў суцэльным ланцугу організацій, каторым расейскіе націоналісты маняцца задзержаць націонадьнае адраджэньне беларусаў. Побач газэты бачым „Бѣлорусское Общество", „Бѣлорусскій Клубъ", каторые маюць тую-ж самую мэту, як і „Сѣв.-Зап. Жизнь": стварыць між беларусамі такі рух, які ў Галічыне вядзецца пад загадам графа Бобрынскаго і завецца старорускім. Як галіцкіе „старорусы" стараюцца запыніць развіцьце роднай мовы і ўсім украінцам прышчапіць расейскую, так і „беларусы" з „Бѣлорусскаго Общества" організуюць тутэйшае расейскае грамадзянства дзеля вайны з беларушчынай, дзеля „абрусеньня" краю. Гэта—акурат тое самае, да чаго кіруецца і большая частка тутэйшых палякаў, с тэй розніцай, што палякі заместа „абрусеньня" дабіваюцца „апалячэньня" беларусоў, выдаючы розные „Przyjaciele", „Jutrzenki", „Dwa grosze" і т. д.

Сумна прызнавацца, але да чорнасоценна-абрусіцельнага кірунку належаць блізка ўсе прэдстаўнікі беларусаў у Государственнай Думе. Закон 3 юня так нарыхтаваў выбары ў беларускіх губэрнях, што сьведомым беларусам нельга было і думаць папасьці у III Думу: ў тых губэрнях, гдзе нацыо-



нальная сьведомасць ужо шмат узрасла, на выбарах перэважываюць памешчыкі-палякі (напр. у Віленскай губ.); там-жэ, дзе народ менш сьведомы і цямнейшы (напр. у Міншчыне), далі селянам больш галасоў, але поруч з гэтым былі спэціальна організованы сьвяшчэнікі і чыноўнікі, каб, падняўшы штандар змаганьня с „польскимъ засиліемъ", прапусьціць у Думу толькі такіе элемэнты, каторые зразу селі с канцавымі правымі, а ў національных справах паддзержываюць ідэалы графа Бобрынскаго і т. п. Такое палажэньне робіць вялікую крыўду беларусам: Государственная Дума і расейскае грамадзянства, слухаючы прамоў беларускіх дэпутатаў-селян, каторые толькі патураюць Замыслоўскім, Бобрынскім і Комп., ня могуць ніяк акуратна прэдставіць сабе таго, што папраўдзі робіцца на Беларусі, якіе патрэбы мае наш народ, чаго ён дабіваецца.

---

## V.

Хто акуратно прыгледаецца да жыцьця беларусаў, той можэ наперад сказаць, што—раней, ці пазней—беларусам прыдзецца пакіраваць свае сілы на тое, каб здабыць грамадзкіе правы для сваей національнасьці, для роднай мовы у двух інстытуціях: гэта—народная школа і—у праваслаўных—цэрква, у каталікоў—касьцёл.

Кожнаму зусім ясна, якую вялікую вагу для духоўнага развіцьця народу, для развіцьця яго культуры мае національная школа. У Беларусі аб беларускай національнай школі німа зусім і гутаркі: тутака ўсё перэважывае „палітыка", каторая, як ведама, мае мэту „привести къ одному знаменателю" ўсе нацыі. Расейскі націоналізм—гэта школьная атмосфэра, ў каторай павінны вучыцца дзеці беларускіх селян. Праўда, гдзе вучыцель на першым мейсцы ставіць навуку, а не „палітыку", гдзе ён шчыра руніцца аб развіцьце гэтых

будучых грамадзян нашага краю, там яму само сабой прыходзіцца—хаця-бы спачатку—тлумачыць вучням усё зразумелай, матчынай гутаркай. Але такіе здарэньня дужа рэдкі: офіціальна ужываць у школі беларускую мову забаронена. І пакуль беларусы не дачэкаюцца такога часу, калі ў Думе падыймуць свой голас і здалеюць цьвёрда пастаяць за беларускую школу іх національно сьведомые прэдстаўнікі, датуль як навучаньне па беларуску ў народных школах, так і аткрыцце прыватных беларускіх школ, ня можэ ісьці правільна і шырока, а будзе адбывацца патайна. Гэта — адна з найвялікшых перашкод, якая ляжыць на дарозі беларускага національнага адраджэньня, але яна так моцна звязана з нашым палітычным палажэньнем, што толькі з ґрунтоўнай пераменай палітычнага „курсу“ можна будзе яе пазбыцца. А пакуль-што дробные ручайкі національнай сьведомасьці цякуць у народную школу доўгай, абходнай дарогай.

Цяпер зьвернемся да справы завядзеньня беларускай мовы ў цэркві і касьцёлі. Кажучы аб цэркві, мы спатыкаемся так сама с перашкодамі, каторые залежаць ад агульнай „палітыкі“. За тое ў каталіцкім касьцёлі „палітыка“ ўраду мае шмат меншую вагу: тутака духавенства, калі-б хацела, маглобы багата зрабіць, але беда ў тым, што яно—ня лічачы тых маладых ксяндзоў-народнікаў, аб каторых мы сказалі вышэй,—скоса паглядае на беларускі національны рух. Агульна кажучы, справа беларускай мовы не такая простая, як на першы пагляд здаецца, і да ея прыступаць трэба дужа асьцярожна і добра ўсё абдумаўшы. Гэтым і тлумачыцца факт, што беларусы у змаганьні за правы для сваей мовы ў касьцёлі не пайшлі тэй дарогай, якой з самага пачатку літоўскага руху ішлі і йдуць іх суседзі літвіны.

Мы ўжо казалі, што пасьля польскага паўстаньня 1863 году ўрад глаўнай мэтай сваей палітыкі ў Беларусі абвесьціў „распалячываньне“ краю с тым, каб яго зусім зраўнаваць з Велікарускімі губэрнямі. І тутака ён зрабіў абмылку, рэзультаты



каторай ляглі цяжкім каменем на ўсё далейшае развіцьце беларусаў, як націі: національные асобліваcьці былі перамешаны з асобліваcьцямі рэлігійнымі, і на гэтым фундамэнці ўсё каталіцкае ў нашым краю і дагэтуль офіціальна лічыцца польскім.

Паводлуг рэлігіі беларусы дзеляцца на дзьве няроўные часткі: меншая частка (каля $2^1/_2$ мільёнаў)—гэта каталікі, большая—праваслаўные. Нішто, апрача рэлігіі, не раздзеляе гэтых груп, каторые національна складаюць адзін суцэльны беларускі народ.

Нават такіе староннікі дэнаціоналізаціі беларусаў, як проф. Кулаковскій, аткрыта з гэтым згаджаюцца: проф. Кулаковскій, быўшы на з'едзі правых організацій заходняга краю ў Кіеві (1909 г.) даказваў, што ў беларусаў каталікоў і праваслаўных мова, звычаі, ўсе пагляды і—адным словам—уся псыхіка — супольны. Ня гледзячы на гэта як пры выбарах у Гасударственную Думу, так і пры апрацаваньні закону аб земстве ў Заходніх губэрнях ўрад усіх беларускіх селян-каталікоў запісаў „у палякі“, прылучыўшы іх да польскай курыі, а такіе-ж беларусы праваслаўнай веры былі ўсе аб'яўлены „расейцамі“.

Так быў зроблен офіціальны раздзел беларускага народу на „палякаў“ і „расейцаў“. А поруч з гэтым каталіцкае духавенства, ужываючы ў касьцёлі ў дадатковых малітвах і казаньнях толькі польскую мову і без падмогі ўраду зусім натуральным спосабам апалячывала і апалячывае беларусаў-каталікоў. З усяго гэтаго выйшла вось што.

Беларускі селянін, не разумеючы, чым каталіцтва розніцца ад праваслаўя, крэпка верыць, бытцым каталіцтва — гэта польская вера, праваслаўе — расейская. І ня дзіва: ў цэркві ён прывык чуць расейскую мову, у касьцёлі— польскую, сваей жэ роднай, беларускай, ня чуе ні тут, ні там. Палітыка ўраду і духавенства зрабіла тое, што два зусім розные паняцьця — рэлігіі і націі — ў галаве беларуса зліваюцца ў вадно. „Паляк“ і „каталік“ для яго такіе самые сынонімы,

як „рускі“, „расеец“ і „праваслаўны“. Беларусы йшчэ дагэтуль памятаюць, як ім „адбіралі“ рэлігію (скасаваньне уніі), і, каб мацней звязацца с тэй рэлігіей, да якой цепер належаць, стараюцца адзначываць усюды сваю бытцым то прыналежнасьць да палякаў, або да расейцаў. На такім ґрунце нарадзілася жаданьне адрэкціся ад беларушчыны, нарадзілася пагарда да ўсяго роднага: да сваей мовы, да братоў-сермяжнікаў, каторые йшчэ дзержацца яе, да ўсяго „простага“, „мужыцкаго“.

Аб тым, як у вачах беларусаў польшчына і каталіцтва моцна звязаны, сьведчаць такіе факты, як запіс 58 тысяч чыстакроўных беларусаў-селян Віленскай губэрні на валасных сходах **палякамі** толькі затым, што яны каталікі (—пры перапісі, зробленай тутака ў часі апрацаваньня закону аб земстві), як разгромы народных школ, дзе вучыцелі не хацелі беларусаў-каталікоў запісываць **палякамі** („январская школьная перепісь“). Падобных фактаў можна было-бы знайсьці бяз ліку, але і гэтых даволі!

Здаецца, варункі жыцьця беларусаў **павінны** былі ў канцы зусім раздзяліць гэты народ на дзьве часьці павэдлуг рэлігіі с тым, што каталікі і па мове і па культуры зрабіліся бы папраўдзі палякамі, праваслаўные—расейцамі, зліўшыся з велікарускім народам. Гэтак яно напэўна і было-бы, каб не нарадзіўся беларускі національны рух.

Гэты рух зразу адбіўся на ўсіх бакох жыцьця беларусаў. Пачалася работа і над распалячэньнем касьцёла с тэй мэтай, каб на мейсцэ польскай мовы завясьці беларускую. Але ў той момэнт, калі на гэтай дарозе беларусы рабілі першые крокі, на беларускую національную справу асаблівую ўвагу звярнулі расейскіе „націоналісты“. Для „націоналістаў“ справа адраджэньня беларусаў паказалася больш „небяспечнай“, чым іх апалячэньне; вось яны і паднялі аґітацію, каб урад налажыў на справу аб мове ў касьцёлі сваю руку, каб сам узяўся за распалячэньне касьцёла, але ўжо с тэй мэтай, каб польскую мову замяніць не на беларускую, а расейскую.



Такая думка дужа перэпалохала беларускіх селян-каталікоў. Натуральны страх, што ў іх рэлігійные справы ўмешаецца урадовая ўласць, пастараліся йшче павялічыць польскіе націоналісты, даказываючы, бытцым урад, завёўшы ў касьцёлі расейскую мову, пераверне каталікоў у праваслаўных. Поруч з гэтым пачалася аґітація проці проб заведзеньня ў касьцёлах беларускай мовы: польскіе націоналісты, як сьвецкіе, так і духоўные, пачалі тлумачыць беларускім селянам, бытцым беларуская мова — гэта толькі пераходная ступень да расейскай, а, значыць, і да праваслаўя.

С таго, што мы вышэй сказалі, лёгка зразумець, які добры ґрунт павінны знайсьці ядавітые зерняты, закінутые ў душу беларусаў супольнай працай польскіх і расейскіх націоналістаў. І з гэтым піонеры національнаго адраджэньня беларусаў ня могуць не лічыцца. Вось, чаму мы кажэм, што да справы завядзеньня беларускай мовы ў касьцёлі трэба прыступацца дужа абдуманна: адзін фальшывы крок можэ яе лёгка задзержаць на доўгі час.

На нашу думку тутака трэба ісьці двумя дарогамі: праз самы народ і праз духовенства. Трэба старацца, каб жаданьне правоў для роднай мовы ў касьцёлі шырэй збудзілася ў народных массах, каб увесь народ сам пачаў голасна іх дамагацца. Грунт для гэтага прыгатаўляе агульна-беларуская работа; сяўба на ўзаранай ральлі—гэта павіннасць національнасьведомаго духавенства, ў гэтым ліку і тых ксяндзоў-народнікаў, кадры каторых ужо набіраюцца. Споўніць гэту павіннасьць народ наш мае права вымагаць ад духавенства, як ад людзей і грамадзян, сыноў Зямлі Беларускай, ня гледзячы на ўсе перашкоды, якіе стаўляе польскі націоналістычны клір, або Сынод, або йшчэ хто іншы.

## VI.

З усяго, што мы сказалі, відаць адно: як для работы дзеля школьнай справы, так і дзеля касьцельнай, або цэркоўнай і ўсіх іншых патрэбны беларусам інтэлігентные сілы, каторые памаглі-бы народу выйсьці на шырокую, вольную дарогу нацыянальнага творчэства. Уся старая краёвая інтэліґенція— расейская і польская—вядзе ў Беларусі палітыку эґоістычную, рупіцца адно толькі аб свае нацыянальные справы. І пакуль не народзіцца моцная свая, беларуская народная інтэліґенція, пакуль яна не здабудзе сабе належнаго мейсца ў жыцьці краю, як сьведомая і солідарная ґрупа, беларускі нацыянальны рух ня можэ развінуцца так шырока і ўсестаронна, як, напрыклад, літоўскі рух, каторы пачаўся на гадоў 30 раней за беларускі і ўжо здалеў узгадаваць кадры нацыянальна-сьведомых інтэлігентаў—літвіноў.

Мы ўспамянулі вышэй аб тэй дэнацыяналізаторскай рабоці, якую робіць у Беларускім краю расейскі і польскі элемэнт. Гэткае становішчэ займалі яны даўней—у часі першых проб беларускай нацыянальнай працы; тое-ж робяць і цяпер, калі ўжо сьмела можна сказаць, што—раней, ці пазней—голас нацыянальна-сьведомага беларускага народу, як гаспадара краю, будзе перэважываць ва ўсіх культурна-нацыянальных справах на Беларускай зямлі. І расейцы, і палякі—кажучы праўду— вядуць і далей дужа недальнавідную палітыку вузкага нацыяналізму, або выступаючы востра проці новай грамадзянскай сілы ў нашым краю, або не зьвертаючы на яе ніякай увагі, бытцым з ёй ня трэба зусім лічыцца.

Аб расейскім незалежным грамадзянстве, аб вольнай грамадзкай думцы расейскай у Беларусі не шмат можна сказаць: расейскі элемэнт бадай увесь укладываецца ў рамкі „оффіцыяльнай Расеі“, аб палітыцы каторай нам ужо давялося гаварыць, а невялічкая шчыра дэмократычная ґруппа мае так мала сілы, што яе сымпатіі для беларусаў маюць толькі мо-



ральнае значэньне. А паляки—гэтая найдужэйшая краёвая інтэліґентная сіла, стараючыся апалячыць беларусаў-каталікоў, як-бы ідуць на спатканьне офіцыяльнай расейскай палітыцы і, выдумляючы ўсё новые і новые способы перэварачываць беларусаў „у палякі“, памагаюць дзяліць беларускі жывы народ на дзьве непрыяцельскіе арміі. Старай сыстэмы насільнай полёнізацыі трымаюцца цяпер толькі польскіе „народовые дэмократы“, і ўжо пайшоў у ход, другі способ— способ ласкі: „niechaj sami przyjdą do nas!“—гэтак кажуць болей „палітычные“ так-званые „краёвцы“ *) („Kur, Lit. № 180“ у 1908 гаду). „Краёвцы“ гатовы нават прызнаць правы беларускаго народу, але ў такім прыпадку, калі беларускі рух захопіць толькі беларусаў праваслаўных, да каторых палякам ніякага дзела німа; затое каталікоў-беларусаў „краёвцы“, як і „народовые дэмакраты“, лічаць за матэр'ял для апалячэньня. Ведама, што пры такіх варунках нельга і думаць аб тым, каб кадры нацыянально-сьведомай беларускай інтэліґенціі павялічываліся людзьмі, каторые належаць да старай апалячэнай, ці абрусешайў краёвай інтэліґенціі; нельга спадзевацца, каб і само захопліваньне беларускіх інтэліґентных сіл, выйшоўшых з народу, так зразу скончылася. А гэта—вялікая завада для ўсей беларускай справы, для нараджэньня народнай, нацыянальна-сьведомай беларускай інтэліґенціі, которая, звязаная неразрыўна с „простым“ народам—9-ці мільённай мужыцкай грамадой, адна толькі і можэ як належыць развіваць нацыянальную душу беларусаў, пераховываючы ў чыстаце ўсе асоблівасьці свайго нацыянальнага Я.

Ня гледзячы на ўсе перашкоды, мы верым у нараджэньне такой інтэліґенціі: яна павінна нарадзіцца. Пачатак ужо

*) Кажучы аб „краёвцах“, трэба зрабіць агаворку: праудзівых, шчырых краёвых людзей, каторые лічаць сваёй павіннасьцю працаваць ня толькі для сваёй польскай справы, але і для тутэйшаго беларускаго народу, ёсць зусім малая жменя; большая-ж частка „краёвцоў“—гэта тые-ж нацыяналісты, толькі уздзеўшые новую скуру.

бачым; рэшту зробіць само жыцьцё: гляньце, як будзіцца націянальная сьведомасьць у беларускай вучашчэйся моладзі, як жаданьне працаваць для свайго, дагэтуль усімі забытага народу, падыймаецца ў душы гэтых будучых дахтароў, юрыстаў, інжэнераў, пэдаґоґаў, грамадзкіх працаўнікоў. Мы верым, што наша маладая народная інтэліґенція споўніць назначэную ёй гісторыей высока-культурную мэту, і беларускі народ, каторы ўжо „свой голас даў“, паложыць і сваю частку у агульна-людзкую культурную скарбніцу, павялічыць хоць крыху усесьветнае культурнае багацьце.

*Антон Новіна.*

У лістападзі 1911 г.—Вільня.

## Родны край.

Ты не пытай мяне, мой дружэ,
Аб той краіне, дзе я ўзрос,
Аб днях пагодных, золкай стужэ,
Аб роснай траўцэ, поўнай слёз:

Пакінь пытаць аб кветках мая,
Што так пярэсцяць на лугох
Дзе шчэбятлівых птушак стая
Пяе и снуе па стагох.
Аздобнасць неба—сонцэ, зоры
Душу сьвятлілі часта мне,
І сэрцэ, поўнае пакоры,
С падзякай к краю свайму мкне.

Пакінь пытаць, ці я збалелы
Свайго радзімага села
Пагляд санлівы і нясмелы
Яшчэ і сёньні помню я.
А хто-ж бы мог нямое поле,
Абшар квяцісты—сенажаць,
Дзе столькі працы, слёз у волю,
Так лёгка, здрадна зневажаць?

Вып. 2. Историческій очеркъ словообразованія и словоизмѣненія въ бѣлорусскомъ нарѣчіи. Варшава, 1911 г. 8°. IV+408 стр. ц. 2 р. 50 к.

Вып. 3. Очерки синтаксиса бѣлорусскаго нарѣчія. Варшава, 1912 г. 8°. XIV+348 стр. 2 „ 50 „

**Н. Я. Никифоровскій.** Бѣлорусскія пѣсни „Частушки“. Вильна 1911 г. 4°. IV+166 стр. ц. . 1 „ 50 „

**Е. Р. Романовъ.** Бѣлорусскій сборникъ. Выпуски 8 и 9-й. (Бытъ Бѣлорусса. Словарь условныхъ языковъ). Вильна, 1912 г. 8°. VII+600+124 стр. ц. . . . . . . . . . 3 „ 50 „

Матеріалы по этнографіи Гродненской губерніи. Подъ редакціей **Е. Р. Романова.** Вып. I. Вильна, 1911 г. 8°. II+239 стр. Тое-ж. Вып. II. Вильна, 1912 г. 8°. VIII+396 стр. — „ — „

**А. К. Сержпутовскій.** Сказки и разсказы бѣлорусовъ-полѣшуковъ. Спб., 1911 г. 8°. VII+188 стр. цэна. . . . . . . . . . . . 1 „ — „

Яго-ж. Грамматическій очеркъ бѣлорусскаго нарѣчія дер. Чудина, Слуцкаго уѣзда Минской губерніи. Спб. 1911 г. 8°. 66 стр. ц. — „ 50 „

**Leon Wasilewski.** Litwa i Białoruś. (Przeszłość, terazniejszość, tendencje rozwojowe). Kraków, 1912 r. 8°. XIX+361 str. cena . . — „ — „

---

*Рэдакція звертаецца са шчырай просьбай да усіх аутору і выдауцау прысылаць для прагляду і рэцэнзіі кніжкі і часопісы, у каторых хоць што колечы пішэцца а беларусах і а Беларусі, а такжэ этнографічные зборнікі і т. п. Аб усём прысланым будзем намешчаць атчоты у сшытках „Маладой Беларусі“.*

**Рэдакція.**

# Спіс.




Вокладка работы Н. М. На ёй два Беларускіе каўшы (карцы) с-пад Чашнік, с кольлекціі І. Володковіча і узор са слуцкаго паяса с кольлекціі Нашае Нівы.

Застаўкі (віньеткі) рысунку Власта з узораў слуцкіх поясоў с кольлекціі Власта і Нашае Нівы.

Цынкографская работа вокладкі і заставак Прокудін-Горскаго. Адбіта у друкарні К. Пенткоўскаго. (Пецярбург. В. Под'ячэская 22).


---

**Цэна гэтаго сшытка I рубель.**